БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

# УЛАДЗІМІР КАРЫЗНА

## АЗЁРЫ ДАБРЫНІ

*Вершы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1995

## БЕЛАРУСЬ МАЯ СІНЯВОКАЯ

Неба чыстае і глыбокае,
І бярозавы ціхі гай —
Беларусь мая сінявокая,
Беларусь мая, родны край.

У густых садах ты красуешся,
Сілай поўная маладой,
У агнях уся ярка свецішся,
Разліваешся збажынай.

Славай слаўная ты былінная,
Залатою сваёй красой,
Майскай песняю салаўінаю
І вясёлкамі над ракой...

Неба чыстае і глыбокае,
І бярозавы ціхі гай —
Беларусь мая сінявокая,
Беларусь мая, родны край.

*1959*

## ПЕСНЯ АБ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Навальніцамі
Лозы ніцыя
Прытуляюцца да зямлі,
Дзе і мы з табой пад крынічныя
Звоны сінія
Узраслі.
Ледзь з калыскі мы,—
Сталі блізкімі
Нам лясы партызанскіх гадоў.
Светлай ластаўкай тут,
Пад ліпамі,
Узляцела і наша любоў!
Ой, зямля мая,
Тая самая,
Заінелая на зары!
Рэчка сонная...
Далеч санная...
Нібы з печы жар, снегіры.
І марозамі,
І бярозамі
Я прывязаны да цябе,
Я табой, зямля, заварожаны
І належу адзінай табе.

*1979*

## БЕЛЫ КАРАБЛІК

Калі загуляе ў палях ручаёк
І звонка сальецца на міг з жаўрукамі,—
З яго усміхнецца дзяцінства маё,
Што белы караблік калісьці пускала.

Прыпомняцца мары... Прыпомняцца сны...
Як горда бацькоўскія шапкі насілі,
Прапахлыя порахам страшнай вайны
І ўсімі дарогамі любай Расіі!

Караблік надзеі юначыя нёс
У мроісты дзень, што заўсёды нам сніўся,
Нібы чысціню нашых родных бяроз,
Як зелені шчырасць, упартасць крыніцы...

Таму, калі ўспыхне ў палях ручаёк
І звонка сальецца на міг з жаўрукамі,—
З яго усміхнецца дзяцінства маё,
Што белы караблік калісьці пускала.

*1975*

## МЫ ПРЫЙШЛІ З ПЕРАМОГАЮ

Толькі ўспомніш той час —
І ў агонь быццам вернешся.
І сляза на вачах
Так балюча навернецца.
Успамін без маны
Скажа многае, многае,
Як дадому з вайны
Мы прыйшлі з перамогаю.

Шынялёў не знялі —
Папялішчы паклікалі.
Па жыццю, па зямлі
Прайшло гора вялікае.
А вясна так цвіла,
Ззяла неба пагоднае!
Дзіўны свет зберагла
Перамога народная.

Колькі, колькі адтуль
Не прыйшло да матуль,
Да каханых сваіх
Хлопцаў іх дарагіх.
Маладым і прыгожым
Ім жыць бы ды жыць.
Не дай Бог нам такое
Ізноў перажыць.

На зямлі ў цішыні
І сягоння заплачацца,
Бо не проста агні
Той вайны ў сэрцы значацца.
Хто пайшоў — не вярнуць
Ні любоўю, ні песняю.
Нам ніяк не заснуць
Светлай ночкаю веснаю.

*1993*

# ПЕРАМОГА, ТЫ — ДАРОГА

— Што такое вайна,—
Ўсё пытае дачушка малая.—
А ці блізка яна —
Гэта птушка драпежная, злая.
А ці можа калі
І да нас прыляцець яна раннем,
Адабраць у Зямлі
І дыханне маё, і світанне.

Не схаваеш экран,
Як паглянеш — дык сэрца заные:
Паміраюць ад ран,
Гінуць дзеці і бабкі старыя.
Мне часцей і часцей
І самому чамусьці прысніцца,
Як страляюць людзей
І як вёска ў пажары клубіцца.

Перамога, Перамога —
Слёз і ўсмешак поўны воз;
Перамога, ты — дарога,
Наш такі спрадвечны лёс.

Да вясны і мяне
Зноў прыйшоў светлы Дзень Перамогі,
Але цені вайны

Наганяюць у сэрцы трывогі...
Людзі, вас я прашу,
Я прашу вас, мяне вы пачуйце:
Не прадайце душу
І Зямлю ад вайны уратуйце!

Перамога, Перамога —
Слёз і ўсмешак поўны воз;
Перамога, ты — дарога,
Наш такі спрадвечны лёс.

*1994*

# ПРЫХОДЗЯЦЬ ДЗЯЎЧАТЫ БЯРОЗКАМІ

Калі вясна вяртае нам цяпло,
Красу палёў і хараство зары,
І ластаўкі світальнае крыло
Запальвае зялёныя кастры, —

Тады чамусьці думаецца мне:
Дзяўчатамі бярозкі к нам прыйшлі,
Што паляглі калісьці на вайне
Далёка ад бацькоўскае зямлі.

Мне перад іх шчымліваю красой
Ніколі хвалявання не суняць,
І хочацца ласкаваю рукой
Крануць іх косы, тонкі стан абняць...

Дзяўчаты к нам бярозкамі прыйшлі,
Прыйшлі да родных сцежак і крыніц
Паслухаць, ці спакойна на зямлі,
Сваіх харошых хлопцаў далюбіць.

*1975*

## ЧАРОЎНАЕ СВЯТЛО

Яшчэ зіма,
Ды ў лесе над палянамі
Вясновых дзён чароўнае святло,—
І сонныя праталіны праглянулі,
А ў іх вачах былое ажыло.

Яшчэ ў душы
Зімы тваёй мяцеліца,
А ўжо краёчкам адыходзіць лёд,
Я адчуваю, хутка над аселіцай
Высокіх крылаў прашуршыць палёт...

Загадкавае... Сіняе... Світальнае,
Заваражы навекі, закружы!
І дарагое тое, вечна тайнае
Хутчэй вачам замглёным пакажы...

*1983*

## ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, БЕЛАЯ РУСЬ

Жытнёвае поле, лясы і азёры,
Крынічанька ў лузе і ў небе жаўрук —
Услухайся толькі, усё тут гаворыць:
Люблю цябе, Белая, Белая Русь.

Ну як не любіць тыя хаты ля гаю,
Ля сініх азёр і палёў залатых,
Дзе хлебам і соллю сяброў сустракаюць
І з песняй праводзяць, як родных сваіх.

Свет помніць і сёння, як ты ваявала,
Што кожны чацвёрты ў зямлі беларус.
З сынамі Радзімы Маскву адстаяла,
Жыццё адстаяла, о Белая Русь.

Тут трэба ля гэтых азёр нарадзіцца,
І слухаць гаворку, і бачыць зару,
Каб сэрцам і доляй навек прычасціцца
К табе, мая чыстая Белая Русь.

*1968*

## ВЕЧАР УСМІХАЕЦЦА СНЯЖЫНКАМІ

Вечар усміхаецца сняжынкамі.
Цішыня у серабры бяроз.
Вузкаю заснежанай сцяжынкаю
Сёння ты ідзеш, а не мароз.

І няхай мяцеліца праносіцца,
Ды ў вачах яснее небакрай.
Калі сэрца к сэрцу вельмі просіцца,
Значыць, не зіма вакол, а май.

Будзе ўсё прыгожае па-весняму,
Звонка разгукаем мы вясну.
Сонца ўзыдзе разам з майскай песняю,
Калі вочы ў вочы заглянуць!

*1968*

## ЖАНОЧАЯ ЛАСКА

Я помню юнацтва далёкія дні —
Птушыныя спевы
І росныя краскі.
Была для мяне, нібы зорак агні,
Дзявочая ласка,
Дзявочая ласка.
Любоў, нібы хваля, удаль не сплыве.
Глядзіш, ужо сын у далоні запляскаў.
На свеце заўсёды
Жыла і жывеш,
Жаночая ласка,
Жаночая ласка.
Жыццё — не адзін толькі спеў салаўя.
Я, можа б, не раз несуцешна заплакаў,
Калі б не спагадная воля твая,
О матчына ласка,
О матчына ласка.
Крынічкаю чыстай струменяць гады,
І ты, нібы добрая, светлая казка,
Нябёсы і крылы нам дорыш заўжды,
Жаночая ласка,
Жаночая ласка.

*1975*

# ПЕСНЯ РОДНАЯ

Цёплая, нібы вясны світанне,
Светлая, як вераснёвы сум,
Песня родная — маё каханне,
Я цябе ў душы сваёй нясу.

Слухаю — і чую голас маці,
Бачу яе рукі наяву,
Хмельны звон знаёмай сенажаці
Кружыць, як калісьці, галаву.

Шчырая, як праўда майго краю,
Свецішся ля рэчак і лугоў,
Сэрца полымем сваім кранаеш,
Як вясны дыханне і любоў.

*1978*

# ДАЎНО Ў ТОЙ ХАЦЕ НЕ БЫЛА

Даўно ў той хаце не была,
Каля якой бярозаў шаты,
І месяц быццам вінаваты...
Даўно ў той хаце не была.

Даўно ў той хаце не была,
Дзе маці з вокнаў выглядае:
— Чаму ж яна не прыязджае?
Даўно ў той хаце не была.

Паспелі яблыкі ў садах
І, нібы зоры ў дрогкім небе,
Вісяць як быццам без патрэбы.
Паспелі яблыкі ў садах.

Даўно ў той хаце не была,
А каля хаты зжата поле,
І ў сэрцы шчасце смутным болем:
Даўно ў той хаце не была...

*1982*

## ЗОРКА ВЯСЕННЯЯ

Гарыць настрой вечаровы
Той першай зоркай вясенняй,
Што цепліць светлы роздум
Пад спеў птушыных аселіц.

Мой край, які ты прыгожы
Парой вясны летуценнай,
Калі з двароў і гоняў
Збягуць чароды мяцеліц.

І сум, і боль снегам таюць,
Вясна душу шчасцем росіць...
Здаецца, што прарастаю
Жывым лістком на бярозе...

*1977*

## САЛАВЕЙ СПЯВАЕ

Салавей спявае
Звечара ў даліне.
— Выйдзі, выйдзі, дзеўчына,
Хоць бы на хвіліну.

— Не, і не падумаю.

— Я вазьму гармонік,
Полечку зайграю,
Выйдзі, выйдзі, мілая,
Я ж цябе чакаю!

— Пачакай жа трошачкі.

— У расе халоднай
Занямеюць ножкі —
Дай жа данясу цябе
Вунь да той дарожкі?

— Не, ужо ж сама дайду.

— Вузенькая кладка
Над ракой глыбокай —
Галава закружыцца
У імгненне вока.

— Ну, перанясі тады.

Перайшоў палову,
Трэба ж і другую.
Не змагу данесці,
Як не пацалую.

— Што ты, што ты, родненькі!

Я і не заўважыў,
Як зайшоў у грэчку.
А яна ўсё думае:
Пераходзім рэчку...

*1979*

## ЯСАКАРЫ

Ночка ў сэрцы узышла
Салаўінай зорнай карай.
Ясакары, ясакары,
Зноўку я да вас прыйшла.
Доўга я да вас ішла,
Не адно прайшла я поле,
Каб спытацца, майму болю
Дзе апошняя мяжа.
Дайце, дайце слодыч мары,
Ясакары, ясакары,
Разганіце лісцем хмары,
Забярыце боль-туман.
Куды вецер, туды дождж.
Я адна іду на вецер.
Ціхай зоркай памяць свеціць
У тумане ў гэту ноч.
Вецер вее — ліст ляціць,
Ну а хтосьці павучае:
Тое сэрца не кахае,
Што ніколі не баліць.
Дайце, дайце слодыч мары,
Ясакары, ясакары,
Разганіце лісцем хмары,
Забярыце боль-туман.

*1988*

## ЛЯСНАЯ КАЗКА

Жыў чараўнік у цёмным лесе.
Душа прасілася да песень,
Дык ён жалейку змайстраваў,
Жалейкай лес зачараваў.

П'яніла музыка жывіцай,
Свет абнімала бліскавіцай.
І раптам з гэтага святла
Красуня дзіўная ўзышла.

Вясною воч, пяшчотай губ
Яна шаптала: «Ты мне люб,
Адзіны мой, каханы мой,
Якое шчасце быць з табой...»

Яна сляпіла, як праменні,
А ён глядзеў у захапленні,
Яе да сэрца прытуліў —
І з рук жалейку упусціў.

Як струн апошні гук заціх,
Красуня знікла ў той жа міг.
Ды і жалейкі ўжо няма.
Цяпер мяце ў душы зіма.

*1994*

## ЖУРАВІНКА

Журавіны спелыя пайшлі.
Мы з табою іх збіраць прыйшлі.
Кошык лазовы...
Пах верасовы...
Ў журавіны мы прыйшлі.

Восень жураўліная плыла —
Журавінкай спелай ты была,
Шчокі ружовы...
Пах верасовы...
Журавінкай ты была.

Я цябе да сэрца прытуліў
І, здаецца, з восенню паплыў.
Вусны нявінны,
Як журавіны...
З жураўлямі я паплыў...

*1971*

## БУДЗЕШ ТЫ ВІНАВАТА

У зязюльчына ранне,
На сваё, можа, ліха,
Да цябе я пастукаўся
Ціхенька-ціха.

Але ты не пачула,
Ці мне толькі здалося?
І паплыў да мяне
Востры серп між калосся.

І тады я рашыўся
Да цябе, маёй мілай,
У акенца пастукаць
З трошкі большаю сілай.

Зноўку ты не пачула.
Дык без лішняй гаворкі
Да цябе я пастукаўся
Ўсім жыццём сваім горкім,—

Затрашчалі дубы.
Пахіснулася хата...
Ведай, будзеш ва ўсім
Ты адна вінавата.

*1980*

## ДОМ, ДЗЕ МЫ РАДЗІЛІСЯ

Над ракой, за жоўтымі ігрушамі,
Жураўлі падрэзалі зару.
Я, сустрэчай светлаю узрушаны,
Са старэнькай мамай гавару.

Адступіла ўсё, нібы забылася,
Што было вялікім, як сусвет,
Цішынёй і мамай засланілася,
Абляцела, быццам пустацвет.

Вокны засвяціліся крынічкамі.
І ступіў я ціха на парог:
Вось яна — хацінка невялічкая,
Што была відаць з усіх дарог!

Дарагое, роднае, адзінае,
Сэрцам тут заўсёды мы жывём.
Нездарма маленькаю Радзімаю
Дом, дзе мы радзіліся, завём.

*1987*

## МАМІНА ВІШНЯ

Дзе была мая калыска
Песнямі заманена,
Засталася толькі вішня —
Вішня маміна.

Я вясной туды прыеду,
Там — святла праталіна.
Усміхаешся мне цветам,
Вішня маміна.

Маміна вішня, маміна вішня,
Маміна вішня плакучая,
Сэрца маё растрывожыш заўжды
Горкаю слёзкай пякучаю.

Калі сонейка улетку
Да садоў прычалена,
Жменькай вішань пачастуеш,
Вішня маміна.

Ну а восенню, як лета
Халадамі спалена,
Мне праплачаш лісцем жоўтым,
Вішня маміна.

Маміна вішня, маміна вішня,
Маміна вішня плакучая,
Сэрца маё растрывожыш заўжды
Горкаю слёзкай пякучаю.

*1994*

## АЗЁРЫ ДАБРЫНІ

Падходзяць да самага, самага бору,
Шумлівага бору
Уволю наслухацца музыкай спеўнай
Азёры.
Вякамі глядзяць з захапленнем
На сонца і зоры
І самі глыбеюць і самі святлеюць
Азёры.
І я там хадзіла і сэрца студзіла
Да самага рання,
І хвалі змывалі палынныя слёзы
Кахання.
Я знаю, хто любіць душою
Блакіту прасторы,
У сэрцы таго дабрыні і спагады
Азёры,
Святла і спагады
Азёры.
Вякамі глядзяць з захапленнем
На сонца і зоры —
Сама дабрыня і краса майго краю —
Азёры,
Краса майго краю —
Азёры.

*1987*

## ЗЯЛЁНЫ ПАРОМ

Вяртаюся зноў і зноў,
Бо жыць не магу, як без хлеба,
Да кроўных жыццёвых асноў,
Крыніцы, рабіны і неба.

Пакуль яны ёсць — жыву
І я разам з імі шчасліва,
З дачушкай зрываю траву,
Цалую травінкі маўкліва.

Мне сёння бліжэй і бліжэй
У свеце не лёгкім, не простым
Сцяжынка, лісток, салавей
І хмарка над коласам росным.

Вяртаюся зноў і зноў
Да лоз над ракой у тумане,
Да чулых бяроз і кляноў,
Да роднага ў полі кургання.

Хай гром на дасвецці, гром,
Ды той, што зямлю адмыкае
І ґоніць зялёны паром
У светлы мой край з жаўрукамі.

*1972*

# ЗОРАЧКА МАЯ

Мне ўсё даражэй зорны міг начэй,
Звон азёрных гусляў,
Месячкі тваіх веснавых вачэй
І маладзічкі вуснаў.

Ласка шчырых слоў дорыць мне святло —
Сэрца маладзее.
Гэтак першы гром будзіць ціхі дол —
Траўка зелянее.

Мілая далонь поўная цяпла,
Як святла крыніца.
Сілы удалой, звонкай, маладой
Дай жа мне напіцца.

Зорачка мая, светлая мая
Ўзімку і вясною.
А ці снег мяце, а ці дождж ідзе —
Ты заўжды са мною.

*1991*

## ЛАМПАДКІ ШЧАСЦЯ

Чыркаюць зоркі па вербах
І ў рэчцы знікаюць.
Вочы твае усю ночку
Душу асвятляюць.

Слоў не патрэбна ніякіх,
Бо з вуснамі вусны
Ціхенька-ціха, як зоркі,
Гавораць спакусна.

Сэрца трывожыцца светла.
Душа замірае.
Дзе мы з табою ні пройдзем,
Здаецца ўсё раем.

Рукі расстацца не хочуць.
Хвілін не хапае.
Ў сэрцы лампадкамі шчасця
Каханне світае.

*1992*

3. Зак. 5871

# МІГ САЛАЎІНЫ

З зоркаю зорка прыйшла на сустрэчу,
І салавейка пяе нездарма.
Толькі з табой я люблю гэты вечар,
А без цябе яго проста няма.

Я ля крыніцы прайшла б без надзеі
Ціхай хадою цішэй і цішэй,
Калі б з яе на мяне не глядзелі
Два васількі тваіх родных вачэй.

Толькі з табою святлеюць хвіліны
Ўцешнай не вечнай пары веснавой.
Не пакідай мяне, міг салаўіны,
Сум лебядзіны, застанься са мной.

Жыццё як міг, каханне — міг жыцця,—
Душа ўсё гэта добра разумее.
Дык, можа, і таму яна нямее
І бліскае маланкай пачуцця.

*1991*

## ХВІЛІНА СВЯТЛА

Лета выпіта чаша,
Больш ні кропелькі лета.
Ўжо і восень сядзіць за сталом.
Адзінокага неба палыновы палетак
Звонкі вырай калыша крылом.

Дождж шуміць чуйным борам,
Б'е, як мора прыбоем,
У сады, у мяне, у зямлю.
Я гляджу з-пад далоні — думы поўняцца
болем
Да зямнога, што змалку люблю.

Мне шкада жоўтых яблынь,
Быццам квецені весняй...
Толькі ж лета было — і няма.
Праплыло залатое незабыўнаю песняй.
Пройдзе й восень, і прыйдзе зіма.

Загуляе завея — усміхнецца надзея,
Што бліжэй да вясны, да цяпла.
І хоць дзень карацее,
Зорка ў сэрцы яснее,
І даўжэе хвіліна святла!

*1988*

## ПЕРШЫЯ МАРОЗЫ

Першыя марозы
Палі на бярозы.
На каліну палі —
Да мяне дасталі.

Час той недалёчка,
Як касцёр — палае.
Нам было праз ночку
Цёпла ў туманочку.

А той туманочак
Пахкі, як снапочак.
Галава аж кругам,
А сцяжынка — лугам.

Называў зарнічкай,
Называў крынічкай,
Той, што поіць вусны
Ды жывой вадзічкай...

Дзе ж тая крынічка —
Светлая вадзічка?
Кружацца сняжынкі,
Плаваюць ільдзінкі...

Першыя марозы
Палі на бярозы.
На каліну палі —
Да мяне дасталі.

*1983*

## НАДЗЕЯ І КАХАННЕ

Прачнуўся п'яны гром —
І хвалі нібы сходцы.
А мы з табой плывём
Па возеры на лодцы.

І востраў знік уміг,
І берага не бачым.
У цемры хваль глухіх
Што мы з табою значым?

Пабойцеся Бога, вятрыстыя хвалі,
Чаго расшумеліся вы і паўсталі!
Спыніцеся, хвалі, прыціхніце, хвалі,
Не звалі, не звалі мы вас.

Мы значым што ці не —
Каму якая справа:
Ты зоркай ува мне,
А бездань злева, справа.

Вушамі гром стрыжэ.
Грыміць яго іржанне...
Нас, веру, зберажэ
Надзея і каханне.

Пабойцеся Бога, вятрыстыя хвалі,
Чаго расшумеліся вы і паўсталі!
Спыніцеся, хвалі, прыціхніце, хвалі,
Не звалі, не звалі мы вас.

*1991*

## ДНІ ПРЫГОЖЫЯ

Як цяжка нам сказаць упершыню «люблю»,
Нібыта пакідаць збіраешся зямлю,
І ветры ўздымуцца, адкуль — і сам не знаеш,
Ты задыхаешся і ўжо іскрынкай таеш.
І хмары наплылі, і зорак не відаць...
І што тады рабіць, і што тады казаць.

А дні прыгожыя нам зоркай яснай свецяць,
І шчаслівейшы ты на ўсім бялюткім свеце.
У яркай вышыні вачам прыемна сінь,
А ў сэрцы халадком гарачая вышынь.

Як цяжка ўпершыню парой неспадзяванай
На самай вышыні «бывай» сказаць каханню,
Спусціцца на зямлю, пакінуць зорны воз,
Зноў піць настой крыніц і гаркаватых лоз.
Надзеяцца, чакаць вясновых светлых дзён,
З усмешкай уздыхаць пад жоўтых лісцяў звон...

А дні прыгожыя нам зоркай яснай свецяць,
І шчаслівейшы ты на ўсім бялюткім свеце.
У яркай вышыні вачам прыемна сінь,
А ў сэрцы халадком гарачая вышынь.

*1970*

## ЛІЎНІ СВЕТЛЫЯ

Якая цішыня ў гаі,
Дзе ліўні прашумелі з ветрамі,—
І я п'янею ад вачэй тваіх,
Вачэй, што нібы ліўні светлыя.

І ад тваіх святлею слоў
І разыходжуся са сцежкаю.
Я заварожаны тваёй красой,
Тваёй вясной, тваёй усмешкаю.

Як зараніцу, я лаўлю
Дыханне хмельнае, гарачае.
Я гэты ціхі гай люблю
І сэрца з ласкай нерастрачанай.

Іскрынка на тваіх губах,
Крані яе — успыхне дзіўная.
І я гатовы на руках
Цябе панесці ўслед за ліўнямі,

Туды, дзе сіні бэз і май
І круглы год маліна спелая,
Дзе непаўторным рэхам шэпча май
Пра нашае з табой каханне светлае.

*1969*

4. Зак. 5871

## ПАВЕРЦЕ, ДЗЕВАНЬКІ

Паверце, дзеванькі,
Паверце, мілыя падружанькі,
Няма у тым маёй, няма у тым маёй віны,
Што галава мая, што галава мая закружана
Зялёным полымем, зялёным полымем вясны.

Я, можа, толькі вінаватая,
Што прыпынілася на міг,
Што плыў туман і пахла мятаю
І ўся чаромха на дваіх.

Палалі вусны,
Ой, палалі вусны дзіўным полымем,
І я сама была, і я сама была вясной.
Падружкі любыя, падружкі любыя, запомніце:
Няма у тым віны, няма у тым віны маёй.

Я, можа, толькі вінаватая,
Што прыпынілася на міг,
Што плыў туман і пахла мятаю
І ўся чаромха на дваіх.

*1972*

## СНЯЖЫНКА

Ах, дарожкі завейвае
Белым снегам, снегам.
Быццам яблыня белая,
Асыпаецца неба.

Асыпаецца яблыня
Белым цветам веснім
На далоні азяблыя,
На дрыготкія вейкі.

Пад дзівоснай каронаю
Ў белым, белым свеце
Ты сняжынкай чароўнаю
Мне чамусьці здаешся.

Той сняжынкай чароўнаю
Ў белым, белым свеце,
Што ніколі, ніколі
Не растане у сэрцы.

*1967*

## ДЗЯЎЧЫНАЧКА-ЖУРАЎЛІНАЧКА

Любіліся-кахаліся, ад шчасця задыхаліся,
Зіма была — зусім як май.
Але хвіліна сталася, і незнарок сказалася
Мяцельнае, завейнае — «бывай»...

Ой, дзяўчыначка-жураўліначка,
Ды чаго ж ты зажурылася?
Падыдзі хутчэй ты да мілага,
Калі так здарылася.

А шчасце не забылася, бо сэрцайка забілася
Крынічкай ціхай пад лазой.
І вочы, што свяціліся, журбою замуціліся,
Успыхнулі пякучаю слязой.

Не плачце, вочы сінія, у ночы салаўіныя —
Яшчэ прыйдзе да вас зіма.
Шчаслівыя — ўсміхайцеся, мілуйцеся, кахайцеся:
Мілей пары вясновае няма.

Ой, дзяўчыначка-жураўліначка,
Ды чаго ж ты зажурылася?
Падыдзі хутчэй ты да мілага,
Калі так здарылася.

*1994*

## ВІШНЯМІ БЕЛЫМІ

Вішнямі белымі
Ночка завеяна,
Белая ночка зусім, зусім.
Сэрца дзявочае
Шчасцем захмелена,
Моцна закружана ім.
Даль адклікаецца
Песняю дзіўнаю,
Лісці на клёнах шумяць, шумяць.
Ой вы, хвілінaчкі,
Ой, залацінaчкі,
Як вас, парайце, суняць.
Зоры вы ясныя,
Толькі не гасніце,
Золак, яшчэ не ідзі, пастой.
Ліся, шчаслівая
Ноч салаўіная,
Покуль каханы са мной.
Вішнямі белымі
Ночка завеяна,
Белая ночка зусім, зусім.
Сэрца дзявочае
Шчасцем захмелена,
Моцна закружана ім.

*1968*

# ДАВАЙЦЕ ЛЮБОЎ БЕРАГЧЫ

Ля рэчак і крыніц,
Залочаных бароў
Усё часцей звініць,
Трывожыцца любоў,
Што меней чысціні,
Што глыб — расплешчаш жменяй,
І ў сэрцы дабрыні
Чамусьці меней, меней.

Я люблю вас, людзі,
І песняй прыйшоў памагчы.
Давайце разам будзем
Любоў на зямлі берагчы.
Я люблю вас, людзі,
Хачу, каб помнілі вы:
Шчасця ў нас не будзе,
Калі не будзе любві.

Зямля штогод цясней,
А ў свеце не цішэй.
І людзям не цяплей,
І шчасце не бліжэй.
Б'е ў скроні гулка боль,
Што і парой вясенняй
Ракет крылатых больш,
А птушак меней, меней.

Я люблю вас, людзі,
І песняй прыйшоў памагчы.
Давайце разам будзем
Любоў на зямлі берагчы.
Я люблю вас, людзі,
Хачу, каб помнілі вы:
Шчасця ў нас не будзе,
Калі не будзе любві.

Не трэба нам зусім
Ні зайздрасць і ні злосць,
А трэба нам усім
Святла ў званочках рос.
Больш трэба даражыць
Сваёй зімой, вясною,
Не ваяваць, а жыць
Адной сям'ёй зямною.

Я люблю вас, людзі,
І песняй прыйшоў памагчы.
Давайце разам будзем
Любоў на зямлі берагчы.
Я люблю вас, людзі,
Хачу, каб помнілі вы:
Шчасця ў нас не будзе,
Калі не будзе любві.

*1981*

## ЗЯМЛЯ МАЯ ВЯЛІКАЯ

Зямля, ты такая вялікая,
Зямля, ты такая прасторная,
Што да акіяна да Ціхага
Не дойдзеш за год з мора Чорнага.

Не раз горкім дымам засланая,
Вякамі ты зналася з бедамі,
Але ж мы завёмся зямлянамі,
І лепшай планеты няма.

Ты нават у сэрцы не ўмесцішся
Лясамі з грыбамі, арэхамі,
Сваімі садамі пад месяцам,
Сваімі азёрамі, рэкамі...

Вялікая, светлая, росная,
Была неаднойчы знявечана,
Ды перад сучаснай пагрозаю
Здаешся маленькай, не вечнаю.

*1982*

## ЗЯЛЁНАЕ ШКЕЛЬЦА

Пасля вайны
усёю сям'ёй
Мы ехалі
з лесу дамоў
на возе.
Рыпелі колы —
На мове сваёй
Радаваліся перамозе.
Лета ў голыя спіны пякло,
Чорныя коміны
вочы калолі...
Мы ведалі,
Наша згарэла сяло
І мы яго болей не ўбачым ніколі.
Ехалі...
Раптам —
прамень з зямлі,
І з воза
я шуснуў,
Аж маці рванула за лейцы...
Дзіцячыя рукі ўзнялі
Зялёнае шкельца.
Выцер яго,
Да вока прыклаў —
Так яно свет змяніла,

Быццам вясна
Па зямлі прайшла,
Чарнату усю змыла...
Колькі прыходзіла да мяне пасля
Хлопцаў,
як за патрэбай,
Каб паглядзець,
Якая зялёная зямля
І якое святочнае неба!
Толькі бацька адзін
не глядзеў.
Тапарышча сціскаў рукамі...
Нам усміхаўся зялёны дзень,
Зялёнае сонца
ішло над намі...

*1969*

* * *

Ёсць розныя на свеце помнікі,
А гэты — лесу шум.
Здаецца, чую,
Як крочаць партызаны,
Як цяжка дыхаюць яны,
Як прагна ломяць звонкую чыгунку
Стальныя зубы выбухаў начных.

Шум лесу —
самалётаў гул уранні
Над намі —
птушанятамі без гнёзд.
Шум лесу —
просім есці, паміраем...
І дождж пячэ мацней ад жоўтых вос.

Шум лесу —
я, здаецца, бачу
Пад елкаю дзяцінства ў грозны час:
Гергечуць немцы,
Маці моўчкі плача
І цёплым шэптам укрывае нас.
Ёсць розныя на свеце помнікі,
А гэты — лесу шум...

*1975*

* * *

Сын у школу пайшоў —
Да сямі недаседзеў:
Казкі ўсе прачытаў
І мультфільмы прагледзеў.

Навучыўся у шашкі
Абыгрываць бацьку і маці.
Як да сонца жаўрук, паляцеў,
Паляцеў, што й казаці.

Я гляджу яму ўслед,
Праз слязу
бачу свой сорак шосты,
Як у школу-зямлянку ішоў
Басанож. Перарослы...

Калі б хто ў нас спытаў,
Кім жа хочам мы стаць?
Пойдзем, можа, ў пілоты?

Нас бамбілі ў вайну —
Ненавідзелі мы самалёты.
Не любілі мы і машын,
Бо на іх прыязджалі фашысты
І спалілі наша сяло
Усё дачыста...

Мы любілі зямлю
Так, як маці,
Любілі за сілу.
Нас яна засланяла ад куль
І не брала ў магілу.

І, крывёю палітая,
Прабівалася к нам яна
Бульбаю, хлебам...
Яна, знаю, чысцей
За самае чыстае неба...

Сын у школу пайшоў —
Ярка сонца
над ім залаціцца.
Хай жа свеціць яму
і яго,
І маё,
і матулі дзяцінства!

*1971*

* * *

Згаджаюся з думкай:
На паплавок
Падобна маё летуценнае сэрца —
Трымціць над карчамі,
Над лёгкай травой,
Дзе рыба халодная
срэбрана ўецца.

Нырае,
як куля,
у цемру вады,
І лёска пад грузам,
бывае, парвецца,
Ды звяжаш яе,
Зноў закінеш туды...

Вось так і жывецца.

*1975*

# НЯЎДАЛЫ СВЕТ

Якому дурню свет далі зрабіць,
Які мы ўсё жыццё перарабляем?
*Максім Танк*

Думаю: навошта запалкі людзям?
Хай бы кожнаму служыў
Агонь душы сваёй:
Няма яго — мерзні.

Няхай бы хлебам была
Карысць,
зробленая адзін аднаму,—
Цікава,
колькі б балбатуны пратрымаліся?

А калі б думкі мелі колер:
Светлыя — тады табе светла,
Цёмныя — цёмна,—
Многія б так і не ўбачылі
Весняй красы
і нябеснай сіні,
Але, пэўна,
не ведаў бы свет тады
Трагедый Сангмі і Хатыні.

*1970*

* * *

Маю рачулку выцягнулі ў струнку.
Алешын хмары
І вясёлы луг
Папляжыў і счарніў
халодны плуг,
І мне баліць,
што ім не даў ратунку.
Я толькі ўспомніў,
Як было прыгожа!
Рака ў спякоту —
гэта ж дзіва-ложа,
Кладзіся на спіну
Ці на баку
Крывінкай кожнай адчувай раку.

Было яшчэ балотца, дзе лавілі
Мы за хвасты цяжкіх цецерукоў,
Кашамі выграбалі журавіны,
Знаходзілі пазіцыі грыбоў.

Яшчэ рукою раўнадушнай знішчана
Чароўная мясцінка Галянішчава,
Дзе наскае сярэбранае рэха
Нам сыпала за пазуху арэхі.

А што наступнае?
Баюся я за душы.
Прабач мне, Божа, калі я грашу,
А раптам наш вучоны раўнадушны
Захоча людзям выпраміць душу?

Свой боль я не хаваю ад народа,—
Яго і не схаваеш —
так ляжыць!
Без нашай добрай, ласкавай прыроды
Я не хацеў бы нават дзень пражыць.

*1970*

## ТРАЦІЛ І ПЕСНЯ

Рвуць трацілам
Лёд рачны напрадвесні,
Каб палі не павыцягваў,
Млын не паабскубаў
І не сапсаваў каб
Вясновую добрую песню,
Чалавечую працу
Каб не зневажаў...

І ў нас,
у людзей,
Часам такое бывае:
Лёдам паабрастаем,
Страцім не толькі
Слых...

Хіба ж не патрэбна
Нам клапаціцца пра па́лі?
Пра млын
І пра песню,
Агульную для усіх?!

*1970*

## У БАРЫ

Нахадзіўся і лёг.
Рукі раскінуў.
Цягнуць халадок яны з зямлі,
што карані.
Нада мной праплываюць
Зялёнымі хмаркамі
соснаў вяршыні,
Б'юць птушыныя песні,
Як крыніцы у цішыні...

І раптам
сам сабе я здаўся струною,
Якую бор крануў
Сасновай рукой,—
Яна загучала,
Растала,
Стала цішынёю,
І залатое,
як поле,
Смяялася неба над ёй...

*1971*

* * *

Узгоркі ў калючым іржэўніку,
Нібыта вялікія вожыкі.
А дзеці агонь журавінавы
З балота выносяць у кошыках.

У лесе грыбы набрынялыя
Духмянай лясною прыправаю.
Даўно дрэвы ветрам абскубаны
І лісце па вуліцы плавае.

І рэдка так сонца нізкае
Блакітным акенцам паблісквае.
Туман сырою лагчынаю
Плыве за тугой жураўлінаю.

*1958*

* * *

Ночка,
Быццам сівы рыбак,
Крочыць лугам.
Ля Пцічы птушынай
Ціха-ціха ступае,
Каб — не дай бог —
не трэснуў сучок.
Сыпле, сыпле —
стараецца —
зоры яна
На занадку язёў,
Што не спяць
І варушацца
тлустымі
спінамі
Ў сонных глыбінях.

*1959*

## РОДНАЯ ПЕСНЯ

*Юрыю Семяняку*

Святлеў ад песні
Я часінай рознай,
Прызнанні сэрца чулага шаптаў
Каля зялёных вышак
Вербаў росных,
У шчырым царстве
сініх рэк і траў.

Люблю яе,
прыветную, такую,
Што апячэ,
Як той пары настрой,
Калі зязюля
першы раз кукуе
І ты —
аж заміраеш
перад ёй...

Нібы ручай
з крыніцы невялікай,
Яна святліста коціцца-плыве,
Не лезе ў вочы
І не любіць крыку,
Ды паспрабуй
ты не пачуй
яе!

*1978*

* * *

Маланкі з цемрадзі выхопліваюць
Падкову бору, жвір гасцінца,
А разам з гэтаю падковаю
І Млечны Шлях майго дзяцінства.

*1975*

* * *

Сын быць не хоча
У «зялёным» лагеры.
З ім пасля школы
Кожны год вайна.
А мы —
малыя —
З лесу не вылазілі,
Была знаёмай кожная сасна.

Я помню,
Партызанская зямлянка,
Што да вачэй
схавалася ў зямлю,
Адводзіла
ваенныя маланкі,
Што цэліліся
ў нашую сям'ю.

Калі фашысты лезлі
ў час блакады,
Ішлі аўчаркі
Нас перадавіць,
Лясным мы нетрам
Гэтак былі рады,—
Той час успомню —
Сэрца забаліць...

5. Зак. 5871

А плакалі
ля маці
ад знямогі,
Вадзіў нас люты холад у бакі —
Працягвалі нам
Рукі дапамогі
Ababkі,
Казлякі,
Баравікі...
Нам лес быў
і кашуляю, і хлебам,
Жывою думкай, шчырым пачуццём,
Ты, сынку,
і не ведаеш,
што лесу
Сваім ты
абавязаны жыццём!..

*1975*

## ЧЭРВЕНЬ

Баль спраўляюць у лесе
Вясёлыя птушкі.
Дзе змаглі яны
гэтулькі песень сабраць!
Аж зямля
натапырыла
чуйныя вушкі,
А на іх
завушнічкі-сунічкі
гарацЬ...

*1978*

* * *

Жураўліны нарог з рана
Прайшоў па нябесным глеі —
Баразёнкаю разаранай
Млечны Шлях бялее...

*1984*

## НАСТРОЙ

У чалавека добры настрой,
Чалавек усміхаецца.
Настрой —
як салавей світальнай парой,
На промні усмешкі гушкаецца.

Яго музыкай
зачараваны я,
Свет увесь
сонцам праменіцца!
І раптам —
о Божа! —
У салаўя
Нехта ўжо цэліцца...

*1975*

* * *

Як квеценню, сівізною
Свеціцца сталасць святая —
Гэтак нарог вясною,
Пахадзіўшы ў зямлі,
                                        світае...

*1978*

* * *

Я цябе люблю,
Як песню шчырую,
Нібы летняй раніцы пару,
Нібы ластаўку,
Што з выраю
Прылятае ў родную зару.

Я табой
адною
ганаруся,
Бачу я ў вачах тваіх адзін
Сінь нябёсаў
роднай Беларусі,
Чысціню глыбінь...

*1974*

## ЗАЙЗДРАСЦЬ

Вострая каса
Зайздрасці людской,
Я не раз быў скошаны,
Подлая, табой.

Зноўку
хтосьці тупае
Па расе...

Як траву ні косіш,
А яна расце!

*1976*

## СЯБРУ-КАМПАЗІТАРУ

Твае песні
                    як птушкі,
Што прыносяць вясну
З неба зімнага,
                              з пушчы
І з трывожнага сну.

Яны боль супакояць,
Дораць
              высі свае...
Штосьці
               ў іх ёсць
                              такое,
Чаго нам не стае.

Ад зласлівых,
Старонніх,
Несумленных людзей
Твае песні бароняць,
Дарагі чарадзей.

*1981*

6. Зак. 5871

# СУХІ ЛІСТОК

Яшчэ з вясны
на дрэве ён засох,
Ды вецер
не занёс яго
ў пясок,
Не кінуў у раку:
пашкадаваў,
Яго з галінкі
нават не сарваў.
І ён сабе
Так ціха правісеў,
Аж покуль восень
Не дайшла да дрэў
І не ўзмахнула
выстылым крылом,
Халодным
не азвалася
дажджом,—
І лісце,
што шумела і расло,
Што з птушкамі
лагодна спеў вяло,
Што апякло
зялёную далонь

Аб навальнічны
трапяткі агонь,—
Паволі вянуць пачало,
Жаўцець:
Раз лецечка прайшло —
пара ляцець...
Як бы ўсхадзіўся
жоўты акіян!
Як бы магутны заіграў арган!
І вось пад гэты шум,
бы незнарок,
Зляцеў і той —
даўно сухі —
лісток...

*1982*

## АЗЁРНЫ РАЁН

Звіслі над хвалямі сосны.
Чапля рыбачыць ідзе.
Блешняй спакуслівай сонца
Грае ў азёрнай вадзе.

*1968*

## ЗВАНОЧАК

Якая радасць —
прачнуцца
У маці
На сене мурожным!
Загля́нуць
у шчыліны
мкнуцца
Яблыкі неасцярожна.

І вецер,
як раньш,
З асалодаю
Травінкай
казыча
вусны.
Жаўрукову мелодыю
Каваль
выкоўвае
ў кузні.

— Дзень добры,
мілы кавалю!
Не помню,
днём а ці ўночы

Калісьці
і мне скаваў ты
У сэрцы званочак:

Дзе па зямлі ні хаджу я,
Нават за морам бываю,
А голас ягоны чуе
Родны мой краю.

*1983*

## НА ГАНКУ

З мамай сядзім на ганку.
Удваіх.
І болей нікога,
Калі не лічыць восень,
Але яна не гаворыць,
А толькі слухае звонка,
Як мама перапрашае —
Што нам захавала памяць?
Што калісьці гармонік
Мне не купіла.
І гэта тады,
Калі ў хаце
Не начаваў
Хлеб ніколі,
Бо не было і хаты,
А значыць,
І печы цёплай,
Ні стала,
Ні ложка...
А што гаварыць
Пра капейку?!.

Мама перажывае,
Што пёры ў гусей пазычалі,
Чарніла рабілі
з сажы

І, босыя, снег сустракалі...
Мілая, добрая мама,
Гэта зусім не галоўнае!
Я дзякую табе шчыра,
Што ты падарыла мне тое,
Чаго ніколі не купіш,
Але за што
                    сёння маю
Усё,
        аб чым некалі марыў...

*1983*

## МОЙ ЛЕС

Хоць лес
і мужчынскага роду,
З мужчынскім характарам,
хваткай,
Ды ў ваенную непагоду
Для нас ён
быў маткай.
Яна — усё аддавала.
Нас ля сэрца трымала.
З моху
пасцель рабіла.
Ласункамі частавала.
Нават звяроў упрасіла,
Каб нас яны не чапалі,—
І тыя пад хвояй, асінай
Амаль побач з намі
спалі.
Калі ж блакада даймала,
Выманьвала нас пад кулі,—
Яна
калыханку
спявала,
Каб ворагі плач наш не чулі!

*1983*

## СВЯТАЯНСКІ ВЕЧАР

Хутка, глядзі, сівізна
Гэта прыпомніць табе.
*Калімах*

Мудры Калімах,
Спрачацца нечага
Мне з табой,
Ды вельмі
я прашу:
Паглядзі,
Як святаянскім вечарам
Абнаўляе
Музыка
Душу!

Сівізна
знікае нечакана —
Толькі хай
красуня падміргне...
Штосьці, Калімах,
Занадта рана
Холадам
палохаеш
мяне?!

*1983*

## ЗВАНОЧКІ-ЗАРАНІЦЫ

Як толькі ўспомніш
Першыя сустрэчы,
І вочы тыя сінія,
што ў сэрца
Званочкі-зараніцы заранілі,
І пацалункі похапкам,
з якімі
На небе
у багоў мы пабывалі...
Маладзічкі грудзей яе —
Да іх мне
Хацелася так вуснамі прыпасці,
Трывожным сэрцам,
Лёсам —
назаўсёды,
Але яна заўжды перапыняла,
І я пакутаваў...

Потым у лясную
Ішлі хаціну
каля хваль азерца —
Да бацькі яе ў госці.
Той вясною
Азерца так шырока разлілося —
І пад ваду схавалася дарога.

І я тады узяў яе на рукі
І падужэў,
і стаўся я дарослым,
І горача было мне, як ніколі,
І мне ісці —
як кажуць, на край свету...

У хаце ў нас пыталіся, а як жа
Нам ложкі слаць?
Ці, можа, на адзіны
Мы маем права?

Не ведалі,
Што адказаць,
І нам паслалі разам...
Як толькі ўспомніш гэта ўсё,—
Такімі
Малымі стануць крыўды ўсе
у хаце...
А час бяжыць,
І сын ужо сягоння
ўглядаецца ў красу
Вясны чаромхавай...

*1983*

## ТЫ — МУЗЫКА

Ні трывожнай сірэнай,
Ні зоркай
на сінім папасе —
Мазуркай Шапэна
Ты ў сэрцы маім
занялася,
Як вясна жаўрукамі,
Як восень вятрамі...

Ты — музыка,—
Не дакранешся рукамі...

Слухаю
на наслухаюся
Ні ўдзень
і ні ўночы...

Баюся,
Каб не змоўкла аднойчы!

*1982*

## ЗІМОЙ У ЛЕСЕ

Пад снежнай пярынай
Сцяжынкі крывыя,
Агні журавінаў
І кветкі лясныя.

А елкі кашлатыя,
Ліпы, бярозы
Прыкрыліся ватай
Ад лютых марозаў.

І ціхія ж сосны:
Галінка ні з месца,
Ажно пакуль злосны
Не ўсходзіцца вецер.

І гэтак ён свішча,
Гудзе, завывае,—
Такое ігрышча,
Што страх разбірае.

А сцішыцца рэха —
Здаецца, пачуеш:
Вавёрка арэхі
Зубамі мацуе.

*1959*

## ЭЦЮД

Першы снег хмарамі,
хмарамі
Мякка кладзецца на дол,
Хмарамі, нібы марамі,
Быццам абрус на стол.

А пад ім чыстае,
чыстае
Срэбра азёр і крыніц,
Неба наша вячыстае
У асколках зарніц.

*1964*

* * *

Што за рукі,
якія не ўмеюць
Выкрасаць песні з баяна?
Што за вочы,
якія не адзавуцца слязою
На ўсхліпы баяна?

Што за ногі,
што громам не адгукнуцца
На акорды баяна?
Што за сэрца,
якое не ўстрапянецца
Ад гукаў баяна?

Мусіць, тады, чалавеча,
Ты не з нашага краю,
Дзе нават зямля пяе
І любая былінка іграе...

*1970*

## ТЫ МНЕ ЗАСПЯВАЙ

Калі захварэю —
Ты не хадзі
Шукаць розных зёлак
У лузе за вёскай,
У шумным бары,
Каля ціхай Пцічы,
Ля хаты,
дзе жоўтыя свецяцца восы,—

Ты родную песню
Мне заспявай:
Яна абляцела ўвесь край
мой прыгожы
І зёлкі сабрала.
Калі ж...
Ну, тады
Нічога ты ўжо не шукай.
Не паможа.

*1969*

## СВІСТОК

Толькі ў дрэвах
сонца
Абудзіла сок,
З цёплае
вярбінкі
Я спусціў свісток.

Са свістка
я выпусціў
Жаўрука:
Хай яму
парадуецца
Рака,

Хай з ім павітаецца
Першы гром,
Зажаўцее лотаццю
Луг кругом,

Стане неба сінь
Сіней,
Вочы злосніка —
Лагадней...

*1982*

## ПАЕДЗЕМ

*Кампазітару*
*Уладзіміру Будніку*

Давай з табой, цёзка,
Пакуль яшчэ
свежа
і росна,
Паедзем туды,
дзе птушкі
Звонка
калышуць пушчы.

Паедзем,
сустрэнем красуню
З вачыма,
поўнымі суму,
Не проста паспагадаем —
Настрой разгадаем
Шчырым словам
і нотай
І праспяваем не ўпотай.

Мо іскра ўпадзе каму ў сэрца —
І разгарыцца
цяпельца,
За стол перакінецца,
ў поле —

І вольнаму воля...
Паедзем ад тых,
хто з плесняй,
Хто алгебрай мучае песню.

*1982*

## КРЫЖАВАННЕ

Пахавалі
паэтэсу слынную.
Ясны дзень крыжуюць
сум і гнеў —
Да яе святла
і тыя хлынулі,
Хто яе чарніў,
Аж сам чарнеў.
Сваю ніву
Зажынала шырака
І вяла, вяла...
Ліпеня
захмельнага
лірыка
Сэрцы абвіла.
Пахавалі.
Гэта —
дзень
ці ноч?
Цяжка зорам...
Боль і сорам
Не даюць узняць
нікому воч...

*1981*

## ЯДВІСЯ

Бабка
у вясковай
світцы
Успамінае
Уголас:
— Колас
іграў на скрыпцы...
— На скрыпцы іграў
Колас? —
Зорка ў сэрца
зляцела.
— Іграў,—
і паказвае,—
во як!
Ад музыкі той
трымцела
Усё маладое,
жывое!..
І сёння вясёлка
З неба
ў душу
заглядае,
Калі ўспамінаю
польку,
Якую Колас іграе...

Колас іграў
і ў смутку —
Каціліся гукі, як слёзы,
Ціхенечка-ціхутка,
Аж прабірала марозам...
Скрыпкай
у сэрца
жар сыпаў,
Душы
расхінаючы
сховы.
Гэта ж Сымон-музыка
У Коласа
не выпадковы...
І бабка яшчэ ўспамінае,
Нібы
зрываецца
голас:
— А каб жа вы толькі зналі,
Як спяваць
умеў
Колас!

Штось бабка яшчэ ўспамінае,
Як быццам гаворыць:
«Вярніся...»
А мне ўжо
голас спявае:
— Ядвіся!
Ядвіся!
Ядвіся!

Чаму ж ты
дзікаю грушкай
Настаўніка
укалола?
Гордая паляшучка,
Паехала —
і ні слова.
Чаму ты шчасця зраклася?
Настаўніку ж
было цяжка.
Цяпер ты,
вось бачыш,
знайшлася,
Ды яго ўжо
нямашка...

*1982*

# ВЯРТАННЕ НА РАДЗІМУ

Я сёння ўвечары
Каля тэатра оперы
Пабачыў
Пілігрыма:
Дамоў вяртаўся ён.
Ці, можа, быў занадта цёмны вечар,
Ці што бадзягу
так усхвалявала,
І ён спяшаўся
Да гары Траецкай,—
Я не пазнаў,
хто гэта.
Маўкліва
прайшоў задумны ён.
Ды бліснула маланка —
І я твар Багдановіча пабачыў:
Па ім сляза каціліся...

*1983*

7. Зак. 5871

## ЛАД

Усё на сваім месцы
Быць павінна:
Лілеі — ў рэчцы,
На імшары — журавіны.

У жыце — сцежка,
Ў хмарах — навальніца,
Пад абрывам —
Срэбная крыніца.

Рабінка родная —
Каля паркана,
А салавейка —
Побач закаханых,

Бо калі шчасце
Ён здалёк вяшчуе,
Дык хіба ж яго
Сэрцайка пачуе?!

*1982*

## ДОМА

Б'юць у зямлю
капытамі коні.
Гром і маланкі страсаюць шыны.
А птушкі,
мабыць,
з усіх ваколіц
Прынеслі песні —
аж звоняць шыбы!

А мне ніяк не расплюшчыць вочы —
Нібы ў маленстве,
Сплю без трывогі.
І толькі ціхае:
— Ўставай, сыночак...—
Ураз стаўляе
мяне на ногі.

*1983*

## СЛУХАЮЧЫ «ПАЭМУ» ФІБІХА

*Ірыне Шыкуновай*

Заўжды чаруе
Фібіха «Паэма».
Прыслухайся —
дыханне стоіш:
Там,
як возера
У серабро бяроз,
Б'е хваляй фартэп'яна.
Там скрыпка,
Быццам неба ў час паўночны,
Палае зорным полымем.
А вецер
З лугоў пакошаных
Распальвае мацней
Пажар дзівосны...
Але за ўсё мілей там
Чалавечы голас,
Што б'ецца паміж небам і зямлёй...
Каханне,
Гэта ты!
Зямля і неба —
крылы твае!
Вечнасць —
тваё дыханне,
Гэты дзіўны голас!

Праходзім па зямлі
Мы ўсе
з тваім агнём,
Кладзёмся пад рабіны
і пад сосны,—
Ты толькі вечнае
І ты для нас, як міг,
Чароўны міг,
які жыццём завецца!
Таму і даражым
мы ўсе табой,
Нібы глытком вады
У час, калі ад смагі
Згараюць вусны...
Таму мы без цябе
І шчасце не спазнаем,
Бо шчасце —
гэта міг,
Кароткі,
Як і ты...

*1974*

## НЯЗГОДНАСЦЬ

Цішыня
　　　　інее
　　　　　　　ў парку.
Жоўта
　　　　журaўліны сум
　　　　　　　　　　імжыць.
Сонца зіхаціць
　　　　　　　　электразваркай:
Хоча лета ды з зімою
　　　　　　　　　　сшыць,—
Гэткая нязгоднасць,
Ажно горка,
Быццам нейкі
　　　　　　　адчуваеш грэх...
На далонь азяблую
　　　　　　　　　ваверка
Коціць
　　　　нераскушаны
　　　　　　　　　арэх.

*1982*

# ТРЫПЦІХ ЯНКУ КУПАЛУ

## ПРЫЗНАННЕ

Калі заспяваюць
                    «Спадчыну»
Ці «Явар з калінаю»
                    «Песняры» —
Як свецяцца
            вочы матчыны,
Колькі ў душы
              зары!

Спыняюць тады работу
Усе,
     хоць чулі не раз.
Вёска твар выцірае
                   ад поту,
Слухае Вас!

Вашае слова —
Як дрэўца перад акном,
Пахне,
Хвалюе абновай,
Працінае святлом.

Яно і аблашчыць,
І верне
на міг вясну.
А маці
крыху і паплача,
Успомніўшы
пра вайну.

Яно не раніць —
Яно ачышчае,
Яно —
як світанне,
Таемнае
Кожны раз...

Іван Дамінікавіч,
Вас не толькі чытаюць —
Спяваюць
і слухаюць Вас!

## КУПАЛАЎСКІЯ ПЕСНІ

Калі я слухаю песні
На Вашыя словы —
Мне чуецца
плынь непакорная
У берагах мелодыі,

І берагі не прамыя,
Як струны на скрыпцы,
Што прадаюцца
У магазіне «Музыка»...

Уся на вірах,
Глыбіня такая,
Што дно не прасвечваецца,—
Рака грамамі
І перунамі,
Слязамі,
Вяснянкамі
коціцца
ў нашыя сэрцы!

Яе абмінула пудліва
спрамленне
і асушэнне...

Нас яна
дабрынёй сваёй
не абмінае —
Круціць,
як жорны,
Дыскі шматмільённыя
І дорыць
крылы пявучыя
пакаленню за пакаленнем!

## ПАКУЛЬ ЁСЦЬ КУПАЛА

Купала,
купалле
і купал нябёс,
Куванне зязюлі
ля струн
лозаў ніцых...
Купала —
Шлях Млечны
птушыных бяроз,
Жывыя званы
беларускіх
крынічак.
Купала —
жыццё
і час
быстрацечны,
Таму й не звядзецца
ніколі
наш род.
Пакуль ёсць
Купала —
будзе народ,
А значыць, і песня,
і позірк сардэчны!

*1982*

# КАЛАСАВІКІ

Колькі тыдняў
                    дождж
                              каб паманіўся,
Ну а сёння
Ён сышоў, як бог.
І нявестай
               свеціцца пшаніца,
Васількі сінеюць ля дарог.

З рукава ракі
Шугнулі птушкі,
Разгукалі гэтак сасннякі,
Што палезлі з моху
                         ў цёплай пушчы
Іх паслухаць спеў
                         баравікі.

*1982*

# АПАЎ ЛІСТОК

Прыйшоў Пятрок — апаў лісток.
*З народнага*

Апаў лісток —
і зараз там акно,
Ў яго глядзіць зусім спакойна бусел,
Ці восені пакуль што не відно,
Ці не збіраюцца
у вырай гусі...

*1968*

* * *

Ехала лета яснае,
Рассыпа́ла чырвонцы
Ды на крыніцы,
Паганялі яго бліскавіцы —
Толькі гром па лясістай старонцы...

Ехала лета —
калоссем
Хмялела даль палявая.
Схаваўшыся ў лісці густым, восень
Хмелем яблыкі налівала.

Ехала лета —
ушчэнт ахмялела,
Наляцела на песню жураўліную,
На драбнюткія кавалачкі разляцелася...

*1967*

## КРОКІ

Па канюшыне
Стукае апад,
А мне здаецца —
Гэта часу крокі.
Я помню,
Як садзілі з бацькам сад
Па дубчыку маленечкім
І крохкім.
Калі ён будзе —
яблык залаты!
Як мы чакалі
Светлай той хвіліны!
Але вось
На падпоры
І платы,
Як рукі ў стоме,
паляглі галіны...
І нашы рукі хочуць адпачыць.
І як шкада,
Што з нас ніхто не знае,
Што гэта ў клуб
Не ўласны сын бяжыць,
А наша маладосць як бы ўцякае...

*1977*

## ЧАРАЎНІЦА

Белая лябёдачка
Ваду замуціла.
*З народнага*

Чаму ты, скажы, такая
Прыгожая, чараўніца,
Аж сэрца маё заходзіцца?

І як ты, скажы, умееш
Сны забіраць мае?
Можа, трохі павучыш мяне?

Як ты, скажы, умееш
Быць ад мяне далёка
І ўсё-ткі
быць побач са мной?

Нарэшце, яшчэ скажы мне:
Ну, як ты —
аж дзіва! —
Умееш,
Што я яшчэ сёння
Не твой?!

*1969*

## ТЫ — ДОЖДЖ І СНЕГ

Ёсць штосьці у табе
Ад кожнай пары года —
І сівер слоў тваіх,
І пісем першы снег
Пасля асенняй серабрыстай золі
Перад вялікім веснім адраджэннем,
Калі,
        як лісці першыя,
                                і словы,
І пачуцці,
І усмешкі...
І твайго шчасця ліпеньскае неба
Такое яснае,
Што сэрцу і вачам
Хмурынкі хочацца,
Сняжынкі хочацца...

Ты — дождж і снег,
Штось з кожнай пары года.
Ты вечная ў красе,
Нібы сама прырода.

*1970*

## ВЯСНОВАЕ

Неба і сонца
усім хапае,
І я нічога сабе не прашу —
Нібы па лузе
ля роднай вёскі ступаю,
А за мной ручаі,
як пракосы,—
Быццам кашу.
Хлопец цалуе дзяўчыну —
Полымя на шчоках гарыць!
Сонца —
тэрцыя жаўрукова-шпачыная —
Проста ў сэрцы звініць!

І кожны сустрэчны,
Як тост вясновы,
Як кілішак дабра і святла
прад табой.
І зямля,
Нібы стол новы,
Свеціцца чысцінёй.
І раптам
у зеленаватым дыме
Бачу:
Рассеўся на ўвесь сквер чалавек,

Ногі,
Як станіны гарматы,
раскінуў,
Вочы схаваліся ў хмары павек,

Здаецца, прамовіў:
— Хто пароўну вясну падзяліў?..
І палахліва,
як буханку хлеба,
Жывот свой
Дзвюма рукамі ён абхапіў...

А неба смяялася вясновае,
І біўся ў сэрца прыбоем
вясновы настрой,
І зямля,
нібы стол новы,
Свяцілася чысцінёй.

*1968*

* * *

Паклаўшы руку на сэрца,
Чую:
        тоўхае, б'ецца,
Бы крынічка —
Для гэтага неба,
Што як далонь,
                прапахлая хлебам,
Для гэтага бору,
Вачэй чабору,
Азёр,
        што гараць полымем сінім,
Для гэтых пяшчотных травінак,
Што як валасы любага сына...
Б'ецца крынічка
І ў дзень спякотны,
І ў зімні.
Яна ж і сама
З неба,
        азёр,
            бору,
                чабору,
                    травінак...

*1968*

## ШЛЯХ У ЛЕС

З усіх шляхоў
мілей мне
шлях у лес.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Люблю заходзіць ціха ў лес,
маўкліва,
Нырнуць у вір
ляшчэўніку густога,
У Млечны Шлях бярозак прахалодных,
Прайсці праз шмат пластоў,
нібы крыніца,
Тады і лес —
як сонца,
над табою.
Хвалююць дрэвы
музыкаю сэрца,
Кладзі яе хутчэй
На струны скрыпкі,
Дык з радасцю яе ўсе будуць слухаць...

І спакваля лес тайны адкрывае:
І кулачкі баравікоў
ля ёлак
Даверліва
кладуцца на далоні.

Глядзіш —
і кошык з коптурам...
Тым часам
сонца з-за гары ўзнялося.

Акрыешся кустом, нібы халатам,
Развяжаш матузок
ад волкай торбы —
І на ўвесь лес
запахне скварка з хлебам —
Ніколі я смачнейшага не еў!

Запахне...
І тады к табе падыдзе
Галоднае ваеннае
дзяцінства,
У лесе згубленае
ў час блакады.
— Дзень добры!
Як жывеш?
Адведай хлеба...
Іду дамоў —
І лёгка так ідзецца,
Як жаўранак,
спявае маё сэрца.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З усіх шляхоў
мілей мне шлях у лес.

*1967*

# ГУЛЯЮЦЬ ДЗЕЦІ

— А дзе наш Валодзька,
Анька дзе?
— Гуляюць у хаванкі.

Гуляйце,
Дзеткі мілыя, ў хаванкі,
Шчаслівыя Алёнкі
Ды Іванкі,
Вясёлыя Валодзькі і Сцяпанкі...
Гуляйце,
Мае любыя, ў хаванкі.

Хавайцеся
У зелені,
Каб толькі
Не ад вайны,
Дзе смерць нясуць асколкі,
Не ад варожых танкаў,
Самалётаў,
Шалёнага агню,
Драпежных ботаў.

Гуляйце сабе,
Жмурцеся
Уволю,
Каб толькі не ад жудаснага болю,
Каб толькі
Не ад гора ля матулі,

Якой прынеслі смерць
Фашыстаў кулі...

Хавайцеся
У сонечныя кветкі,
Каб толькі
Вы знаходзіліся,
Дзеткі...

*1978*

# ПАРТЫЗАНСКАЯ МАДОННА

*Міхаілу Андрэевічу Савіцкаму*

Мне прыснілася
ў маміным
доме,
І паверыў
У гэта я:
Партызанская
ваша
мадонна —
Гэта мама мая.
Гэта мама мая
Са мною,
Са сваёю бядою,
З вайною...
Гэта мама мая. Яна!
Тут жа побач — сасна,
А яшчэ —
мой брат і сястрычка,
Што з'явіліся ў свет за мной.
Мы жылі,
Мы раслі,
як лісічкі,
Пад разлапістай той сасной...
Толькі вочы заплюшчу —
і слыхам
Чую-чую трывогі рыўкі:

З цемры лесу
з галоднай ваўчыхай
Нас праведаць ідуць ваўкі...
Ледзяное балота і неба.
І блакадна сціскае зіма.
— Мама-мамачка, дай нам хлеба,
Вельмі холадна...
— Хлеба няма...
Мне прыснілася
ў маміным доме,
І паверыў
У гэта я:
Партызанская
ваша
мадонна —
Гэта мама мая.

Бачу маму...
Яе слязіны...
Аж і сёння па целе мароз!
Гэта ж вашы маршчыны
Ад балючых тых
маміных слёз...

*1981*

## РАССТАЙНЫЯ КРОКІ

А сцежку ў жыце разгайдалі
Расстайных крокаў вестуны —
І апракінулася далеч
Канцамі лопнуўшай струны,

Пры сонцы рынулася цемра,
Рассыпалася шчасця шкло...
Ты, сэрца, гэтага хацела?
Скажы, да гэтага ішло?

*1978*

## СЛЯДЫ

Нідзе
так доўга
сляды
не застаюцца —
Ні на снезе,
Ні на бэзе,
Ні на небе,
Ні на шашы...
Нідзе
так доўга
сляды
не застаюцца,
Як на душы!
Нішто
так моцна
не апякае —
Ні пужка,
Ні папружка,
Ні крапіва
І ні лаза...
Нішто
так моцна
не апякае,
Як крыўды сляза!

*1979*

## ДАБРЫНЯ

Калі нас гора прымінае,
Калі бяда нас моцна б'е,—
Заўсёды маці ўспамінаем
І клічам, родную, яе.

Здаецца, ўміг усё асілім
І стане сонца нам з рукі,—
Яе вачэй дзівосна сініх
Хай калыхнуцца васількі.

Хай слова матчына на сэрца
Гарачай скоціцца слязой,—
Тады і смерць ужо, здаецца,
Збяжыць у цёмны бор з касой...

Як чалавеку трэба мала...
Як не пражыць без дабраты...

Таму і клічам цябе, мама,
У цяжкі міг,
І чуеш ты!

*1978*

## Я СВОЙ ТУТ ЛЮДЗЯМ

Зноў кланяюся
родным бальшакам!
Ніхто ў мяне
Тут каменем не кіне.
Свае спяваю песні землякам,
І ціха падпяваюць
землякі мне.
Я свой тут людзям,
Лесу,
Што ў зару
Зайшоў
і аж дрыжыць ад хвалявання.
Я з неба
Зоркі цёплыя бяру,
На ноч
дае мне Пціч пярыну хваляў...
Я ведаю,
Каб ты вось тут жыла,
Кім быў,
нібы вясна чаромхай,
п'яны,
Ніколі і не сплыў бы я з сяла,
Як гук кароткі
З клавішаў баяна.

*1973*

## ВЕЧАР

Адпрацаваў хлебароб
Дзень вясенні,
                    што корміць год,—
Ідзе
     па-гаспадарску спаважна ён,
Рукі ад стомы важкія.
Свецяцца
             небам сонечным вочы,
Радасць крынічкай
                        у сэрцы плюскоча...
А вечар цёплы
Палае макам,
Хор птушыны
                  песню вядзе —
І ўсё гэта як падзяка
Хлебаробу,
Што з поля ідзе.

*1971*

## БУЛЬБА

Гэтулькі плуг бульбы наварочаў!
За гадзіну пастараўся так,
Што заселі ў ёй мы аж да ночы —
Выхадцы з сялянаў як-ніяк.

У барознах
Пагублялі боты,
Целагрэйкі паздзіраў з нас плот.
Над гарачай
Нашаю работай
Выступілі зоркі,
Быццам пот...

Як падковы,
спіны пасля працы
Разагнуць ніяк мы не маглі...
Ну а як жа,
Як працуе маці
Век увесь у вёсцы
на зямлі?!

У яе не з неба там каўбаска,
Малачка там знойдзеш, першачка...
Маці ў танец пойдзе —

Калі ласка,
Малады станцуй так
«Крыжачка»!

Бульба!
Добра, што ты ёсць на свеце!
Не давай забыць нам мазалі,
Выбівай з нас асцюкі і смецце
І трымай бліжэй нас ля зямлі!

*1972*

9. Зак. 5871

## ВЯСКОВЫ МУЗЫ́КА

Колькі помню дзеда Гіляра,
Ён усё іграе.
Як іграе!
То у гуках майская зара,
То мароз заядлы прабірае.

От жа ўмее!
Быццам бы клубок
Кіне — і мелодыі сцяжына
Павядзе у лес,
на бугарок,
Дзе грыбы
І спелая ажына.

Да зязюль у снежні завядзе
І адкрые тайны-таямніцы,
Дзе русалкі плешчуцца ў вадзе
Пры святле зялёным
Лозаў ніцых.

Правядзе з балота ў цень сасны.
У год сорак вогненна-блакадны,
А то — ў сорак-попельны:

Адны
Штабялі сасны,
Як барыкады.

І сягоння ўвечар выйшаў ён,
Як зайграў —
Пайшлі жанчыны тупаць.
Выключае свой магнітафон
Век наш
Ды ідзе яго паслухаць.

*1972*

## БАЦЬКАВЫ РУКІ

А мне яно вечна рупіць:
Схіліць чало нізка-нізка
Прад вамі, бацькавы рукі,
Бо вы мне былі калыскай.

Калі мы хацелі бачыць
Шырэй і глыбей свет узнёслы,
Былі нам рукі бацькавы,
Нібы высокія гнёзды.

А нас паклікалі далі
Ў глыбіні чароўных нетраў,
Нам рукі бацькавы ззялі,
Нібы для жаўранкаў неба...

Для лёсу нашага вечна
І сілай быць вам
і зрокам,
У спёку —
ласкавым ветрам,
У сцюжу —
цёплаю зоркай!

*1971*

## ЛІПА

Каб выкраіць лапік зямлі,
Гаспадар новы зрэзаў ліпу.
І як ён забыўся,
Што яшчэ прадзед яго,
Як быў дзіцянём,
Гушкаўся ў спёку
пад голлем яе
У калысцы.
Што ліпа мёдам паіла,
Прастуду лячыла,
Голле сваё абпаліла,
А дом у вайну зберагла.

Гаспадар новы зрэзаў ліпу...

Дрэнна
без памяці
жыць чалавеку.

*1972*

## СУНІЧНЫЯ БЕРАЗНЯКІ

Прыйшоў мароз,
ды не з дубінкай,
Каб пакрышыць,
Каб паламаць,—
А з сіняй
коўзкаю лядзінкай,
Каб напраскі
дарогу даць.

Ну чым не дзіва,
Чым не казка:
Ідзі —
як глянеш! —
напраскі,
Ані табе
лагчыны гразкай,
Як бы зусім няма ракі...

Ды штосьці
белы сум
агортвае,
Не радуе
прамы
той шлях,

Дзе сыпкі снег —
як сена цёртае,
Зары вячэрняй
стыне шлак...

І сняцца
ўсю зіму пакутную
Сунічныя беразнякі,
Як вусны —
мілыя,
спакусныя,
К якім
не пройдзеш напрасткі.

*1979*

## ДУМАЙ, ЧАЛАВЕК

Час плыве,
Як на чароўных вёслах.
Зоркамі мільгаюць нашы дні.
Заплылі слязой на соснах
Шрамы ад вайны.

Але ў сэрцы боль
часоў няблізкіх,
І яму травой не зарастаць,
Хоць ужо і славы абеліскі
З-за бяроз і кветак
Ледзь відаць...

Дзесьці зноў разбой
Пад Шляхам Млечным...
Думай, чалавек,
Жыві смялей!
На зямлі агонь палае Вечны,
Ды чамусьці ў свеце
не цяплей...

*1981*

## ЧАРОЎНЫ КРАЙ

Чароўны край далёкага дзяцінства,
З любой дарогі да цябе бліжэй.
Звычайны месяц над тваёй хацінкай
Мне тут за ўсё на свеце даражэй.

Мяне тут нават ліст вярбы кранае.
І рэчка усміхаецца здалёк.
І я у твар, здаецца, добра знаю
У спелым жыце кожны васілёк.

Тут родны дом, навекі сэрцу мілы,
І золак той, што дзьме у ветразь мой.
Тут нават бусел, ціха склаўшы крылы,
Вітаецца і гутарыць са мной.

*1979*

## ЦЯБЕ СУСТРЭЎ

Цябе сустрэў —
І свет інакшым стаў:
Здаецца, нават сонца пацяплела,
Іначай хор птушыны заспяваў,
Бярозка ў міг адзін зазелянела!

Свет зіхаціць
вясноваю красой,
Да слёз кранае
росная былінка!
Я гладжу ў лузе
кожную травінку,
Нібы яна напоўнена табой...

Увесь пяшчоты поўны і святла,
Я адчуваю:
вырастаюць крылы...
Я дзякую,
Што да мяне прыйшла,
Зямлю
І неба
з сонцам
падарыла!

*1973*

## ТЫ — ЛЕТНЯЕ СОНЦА

Ты — летняе сонца
У небе маім,
Я ж толькі маўклівы
Сланечнік пад ім.

Лаўлю кожным зернеткам
Лецейка міг.
Ты свеціш, я спею —
І мы удваіх.

Нам нельга расстацца,
Пакуль я жыву,
Пакуль над зямлёю
Нясу галаву.

*1973*

## ЖОЎТАЕ ЛІСЦЕ

Асыпаюць жоўтае лісце
Нядаўна зялёныя дрэвы
На зямлю,
пабялелую ад халадоў,
Што не дрэмле.

Асыпае вырай асенні
Тужлівыя крыкі,
як лісце,
Крыкі,
што гоман ніў і лугоў
Абуджалі калісьці...

Непакоюся.
Слухаю сэрца...
А тужліва-пажоўклыя дрэвы
На зямлю,
пабялелую ад халадоў,
Сыплюць лісцяў бярэмы...

*1974*

## КРЫНІЧКА НЕ СПІЦЬ

Усе сцежкі зіма замяла,
Неба снежнае з полем звяла.
Пасінелы, пагрэцца залез
У кудлатае воблака лес.

Ні азёр не відаць, ні ракі,
Ні чырвоных праменняў ракіт...

Ды прыслухайся: ў свеце іглiц
І цяпер чуцен голас сініц,
І крынічка пад снегам не спіць —
Нібы летам, бурліць і звініць...

Ды і сэрца парой ледзяной
Б'ецца так, як калісьці вясной!

*1973*

# ПТАХ УРАНІЎ КРОПЛЮ ВЯСНЫ

Дзень каласком
Выплываў над зямлёй,
Калі з песняй адвечнаю
Птах ураніў з неба
кроплю вясны,—
Луг запаліў ён зялёным агнём,
Клёны гараць,
І сам я ў агні,
Невядомым агні
гэтай дзіўнай вясны.

Грэеш мяне,
нібы птушак вясна,
Неспазнанае вогнішча
першых трывог,
Летуценных надзей...

Гэтак гучок
Чуе першы лісток,
Чуе траўку зямля,
Далячынь —
жураўля...

*1974*

## РАЖОК

Святло адчулі ранішнія росы —
І ўжо яны не росы —
светлякі.
Заспаны ранак,
Як падлетак босы,
Ідзе,
па пояс мокры,
да ракі.
Яшчэ спавіта ўсё навокал снамі,
Над хатамі
яшчэ не ўстаў дымок,
А сонейка
ружовымі губамі
Дзьме ў пастушыны
казачны
ражок.

*1980*

# Я ВЕРШЫ НЕ ПРЫДУМВАЮ

Я вершы не прыдумваю свае.
Іх рытм —
то крокі
стомленыя маці,
Якая ўсё шчыруе на сяле,
Адна жыве ў пасляваеннай хаце.
Для рыфмы мне само сабой ідзе
І сэнс нясе
сумленна і ахвоча
Усё,
што плача,
стогне і гудзе,
Смяецца,
льецца,
радавацца хоча.
Таму і дарагія мне яны.
Я іхні донар.
А патрэбна будзе,
Усё, што маю,
шчыра,
без маны
Я ім аддам,
Хай толькі служаць людзям.

*1973*

## СТРУН ГІТАРНЫХ ВАДАСПАД

У родным маім клубе
Вельмі гучна
Бушуе струн гітарных вадаспад.
Не буду ўжо сябе я перавучваць
З народнай школы
На эстрадны лад.
Я ціха выйшаў да старога вяза
На зоркі маладыя паглядзець.
Якая ноч!
Ды можна ж тут адразу
На дваццаць пяць гадоў памаладзець!
Я крочу, а са мною поруч рэчка,
І абнімае пахам сенажаць.
Якая цішыня!
Як быццам рэха
Майго прызнання першага чуваць!
Заснулае
шчымліва забалела
І закружыла раптам галаву...
І кофтачкай чаромха забялела.
Слязой упала зорка
У траву.

*1971*

10. Зак. 5871

## БАЦЬКА

Бацька пайшоў з работы —
І ўспыхнуў у небе зорамі
Сярэбраны звон сякеры,
Якой ён праз дзень махаў.

Бацька пайшоў з работы —
Засумавала работа,
Чорную хустку надзела,
Заплакала цішынёй.

Бацька прыйшоў з работы —
Запахла ў хаце хлебам,
Запахла ў хаце сякерай,
Запахла ў хаце сілай.

Бацька прыйшоў з работы
Са стомленымі рукамі,—
Пяюху ўзяў балалайку
І рукі сабе вярнуў...

*1966*

## НАША КАХАННЕ

Наша каханне,
Як стрэча
лісцяў з ветрам
увесну,
Сонечнага неба з вачамі
улетку,
Журавоў з рабінай
увосень,
Сняжынак з шыбамі
ўзімку —
І так гадамі.

Таму яно й вечнае
І такое незразумелае
для многіх,
Нават, парой,
і для нас
з табою...

*1969*

## КРЫНІЦА

Яна ў траве.
Калыша ціха лісце.
Бруіць жывым блакітам
і звініць.
Прыходзіў бацька
да яе калісьці,
І дзед прыходзіў
У жніво папіць.

І я стаю над ёй,
Нібы падключаны
Да вечна юнай плыннасці яе,
І адчуваю,
як усё балючае
З маёй душы плыве,
плыве,
плыве —

І нечая усмешка брыдкаватая,
І брудны камень,
кінуты ў мяне.
Я забываю дружбакоў,
не здатных
На шчырасць,
Хутка здрадзіўшых вясне.

Я адчуваю
мілы дотык ветру,
П'ю не нап'юся волкасці расы,
Ўглядаюся
ў бярозавыя нетры,
Дзе рэха на рагах
нясуць ласі,

І думаю, якое ўсё умоўнае —
І радасць,
І журботлівы настрой...

Як добра,
што на свеце ёсць чароўная
Крыніца,
Светлы жаўранак над ёй!

*1981*

## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Прыйшоў ты ціха да нас,
калі
Мяцеліца завывала,
Лез у хату
Мароз праз вуглы
І ў вокнах святла было мала.
У бубны дахаў
І ў сэрцы людзей
З халоднага поля
Біў вецер-ліхадзей,
Завейная доля.
На ўсю Беларусь
быў адзіны аркестр —
З людзьмі весяліўся,
Журыўся,
І там іграў векавечны наш лес,
Мяцеліцы
І вятры ўсе!
Жадаў ты вясны
Для любімых ніў,
Цяпла шукаў смела.
Ты зорку сваю пад зямлёй запаліў —
І ад яе пасвятлела!

*1982*

# НАПРАДВЕСНІ

Красою клавішнай —
бярозы:
Плыве
над светам
вальс,
няйначай...
Але ў бярозы
Блізка слёзы,
Крані яе вясной —
заплача...
Спявае неба сінь
І зараснік,
Ды песням
на зямлі
не цесна.
Няма
ні ў кога
звадная
зайздрасці,
Затое
ў кожнага
ёсць песня!

*1983*

## СІЛА

Я музыкі рознай наслухаўся,
Ды больш
застала ся ў памяці
Музыка
клавішаў
ганка,
Якія бацька
Перабіраў нагамі,
Калі вяртаўся з работы.
Я неаднойчы бачыў,
Як бура
стрэхі
зрывала,
Маланка дубы валіла.
Але найбольш
мяне ўражвала
Сіла
бацькавых
рук,
Якія былі
маёй крэпасцю,
Куды ворагі не даходзілі.

*1982*

## СТУДЭНЦКІ ГАРМОНІК

Студэнцкія
мілыя шаты
Прыходзяць на памяць не зрэдзь.
Як часта
любілі дзяўчаты
Гармонікам вечар сагрэць!
Была ў сэрцаў
з музыкай повязь —
З вясковай,
па слыху,
без нот.
Ішлі на яе, як на споведзь,
І з ёю
праводзілі ноч,
Каб сэрцы не зледзянелі,
Каб зорны шугаў агонь,
Каб свет мы ўвесь разумелі
І — адзін аднаго...
Пранёсся той час,
быццам коннік,
І сэрца трывогу б'е:
Дзе ты,
студэнцкі гармонік?
Як не хапае цябе!

*1981*

11. Зак. 5871

## ДЗІЎНЫЯ ЧАРАВІКІ

Пазнаецца ўсё
У параўнанні,
З параўнаннем яснасць настае.
Неяк я зайшоў на рынак ранні,
Бачу — журавіны на стале,

Белыя, няспелыя, нямала!
Іх яшчэ спяліць бы ды спяліць,
Але бабка іх затарбавала,
Бізнес, бач, прыехала рабіць...

І я ўспомніў час,
Зусім нябліэкі
(Час далёкі, а яшчэ баліць!):
Хлопчыкам павёз
На рынак мінскі
Шчаўе,
Каб на ногі што купіць.

Босы на асфальт ступіў гарачы —
Запякло,
Аж сіл няма трываць,
І пабег з падскокам,
Ледзь не з плачам,
Тое сваё шчаўе прадаваць.

Сеў за стол.
Расклаў стажкамі шчаўе,
Прадаю па той, людской, цане.
Шмат пакупнікоў,
Але вачамі
Торкаюцца ў іншых,
Не ў мяне.

Ды ўсё ж торг пайшоў.
Ужо і трэці
Са стала знікае мой стажок.
Падыходзіць цётачка ў берэце:
— Дай бясплатна хвораму,
Сынок.

— Што ж, бяры.
І з гэтае хвіліны
Рух узняўся,
Ажно вецер дзьме:
Жменьку бабцы пажылой накіну,
А сівому дзеду —
Нават дзве.

Шчаўе ўсё прадаў я.
І з набытку
Сонейка праглянула само.
За свае рублі
Папіў напітку,
З'еў адно,
Другое эскімо

І пайшоў шчаслівы
Да прылаўка.
(А ці быў
Шчаслівы больш калі!)
— Дайце чаравікі,
Калі ласка,
Цётачка,
На гэтыя рублі!

Палічыла.
— Мой жа ты харошы,
Каб ты быў усё жыццё здароў! —
Не хапае
(На старыя грошы!)
У цябе каля сямі рублёў...

Я панік душою і плячыма.
Крылы свае нізка апусціў.
Але раптам падышоў мужчына
І рублі ёй тыя
Заплаціў...

Я гатовы быў
Яму пець песні!
І сягоння
З далечы гадоў
Бачу,
Як тады хлапчыну неслі
Чаравікі дзіўныя дамоў.

*1979*

## КАМПАЗІТАР ІВАН КУЗНЯЦОЎ

А рэчка коціцца і коціцца
Не па пясочку — па душы.
Яго зноў бачу
За аколіцай
Ля белых вішань на мяжы.

Ён — з тых людзей
Надзвычай простых,
Хто спачуваў,
А не сляпіў,
З тых,
Хто з касой хадзіў па росах,
Хто працу змалку палюбіў.

Павек не еў чужога хлеба,
Гатовы быў
І свой аддаць.
І не хацеў ніколі з неба
Ні зор, ні песень нахапаць.

Ён быў з людзьмі
У дружбе цеснай
Аж да сваіх апошніх дзён.
І свае песні — цуда-песні —
Ад сэрцаў іх прыпальваў ён.

Кружыла песня добрым знакам,
Збудзіўшы сілы пачуцця,
А ён стаяў,
Глядзеў
І плакаў
Бездапаможны, як дзіця.

*1989*

## МАЛІТВА

Дождж вельмі блізкі да разбою.
Забраны ўвесь прастор дажджом.
А мы цалуемся з табою,
Хоць бы прыкрыліся плашчом.

А дождж шуміць —
ён нас карае,
Што ў сэрцы ўбег агонь вясны,—
І зімны свет
Нам стаўся раем,
І ў гэтым раі —
мы адны.

Адны.. І Бог!
О Бог вялікі,
Нас зразумей і падтрымай,
Дай нам мелодыю малітвы
І век шчаслівымі быць —
дай!

*1991*

## ПЯШЧОТА

Не хапае цябе,
Тваіх вуснаў і слоў,
Не хапае пяшчоты тваёй
Зноў і зноў.

Ледзь расстанемся —
Сум падпаўзае змяёй...
Не хапае цябе,
Мілай ласкі тваёй!

*1992*

## НЕПРЫКМЕТНАЯ

Для ўсіх ты — непрыкметная, зямная,
Якіх, відаць, нямала у жыцці,
А для мяне — адзіная, святая!
З табой на край зямлі гатоў ісці.

У вочы твае гляну — ажываю.
А твае словы як пяшчоты дар,—
Пачую іх — і крылы вырастаюць,
І сонейка выблісквае з-за хмар.

*1992*

## МАЛАНКА ХМАРУ ПАДПАЛІЛА

Маланка хмару падпаліла,
Агнём закі́дала душу,
І я агонь той не тушу:
Майму ён сэрцу вельмі мілы.

Маланка тая — гэта ты,
Тваіх вачэй пагляд гарачы,
Што каля вербаў шлях пазначыў
У край вясняны з цемнаты.

*1993*

## ДЗІЦЯ ПРЫРОДЫ

То сонейкам,
То хмаркай наплываеш
І адплываеш
Ад мяне далей,
А то салоўкам раптам заспяваеш —
Жаданая, няма цябе мілей!

Дзіця прыроды,
Ты — само жыццё.
Краса вачэй дзівосна пазірае!
Маланкай выкрасаеш пачуццё,
Якое ўсё навокал азарае...

*1991*

# ПЕСНІ ВАЛЯНЦІНЫ ПАРХОМЕНКІ

Любяць Браслаў
І Хойнікі
(І не толькі яны!)
Песні Пархоменкі —
Залатыя званы.

Яны ж — ад бабулі,
Чые вочы навек паснулі,

Ад касцоў і жнеек,
Што ўжо забыліся неяк,

Ад рэчак спеўных птушыных,
Якія спрамілі мы і асушылі,

Ад крынічак,
Якія яшчэ не забыліся,
Ад вечарынак —
Яны мне сёння прысніліся...

Песня чараўніцай спяваецца —
Усё з нябыту вяртаецца:
Растрывожаны зноўку

Чую
Над рэчкай
Салоўку;

Крынічка —
ёй гэтак хочацца —
З вачэй
Слязінкамі сочыцца...

І ў куточках
чужога берага
Голас Пархоменкі не губляецца,—
Лагаднее нават Амерыка
Ад песні,
Што сэрцам спяваецца!

Не карайце яе «металам»,
Дэмагогіяй,
Раўнадушшам:
Пэўна, значыць яна нямала,
Калі нашы ратуе душы!

*1986*

## ПРОСТАЯ ФІЛАСОФІЯ

Рэчка б'ецца аб бераг,
Ды ўзабрацца не можа,—
Разбурае той бераг —
І мялее сама.

*1993*

* * *

Зоркі тушаць святло,
А цемра запальвае зноў...

*1994*

# БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Уладзімір Іванавіч Карызна нарадзіўся 25 мая 1938 года ў вёсцы Закружка Мінскага раёна.

У 1956 годзе закончыў Крупіцкую сярэднюю школу і паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Закончыў філалагічны факультэт.

Працаваў настаўнікам на Браслаўшчыне, загадваў аддзелам беларускай музыкі на рэспубліканскім радыё, быў загадчыкам аддзела часопіса «Полымя», цяпер з'яўляецца кіраўніком рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва».

Выдаў кніжкі паэзіі «Край мой сінявокі» (1963), «Жураўліны досвітак» (1969), «Святло ліўня» (1972), «Цеплыня» (1977), «Цішыня баразны» (1981), «Шумяць вербы» (1982), «Музыка ў свеце» (1985), «Душы разгуканай мелодыя» (1988), для дзяцей — «На сяле ў бабулі» (1975), «Кыонг і яго сябры» (1982), «Расколіна на Звоне Свабоды» (1986), «Зямля — два паўшар'і» (1988), «Мір і сонейка для ўсіх» (1990), «Малююць дзеці» (1984 — з А. Вольскім).

На рускай мове выйшлі «Кыонг и его друзья» (1982), «Хитрый и мудрый» (1994).

Пераклаў на беларускую мову зборнік вершаў А. Матуціса «Мамін пірог» (1986), а таксама шматлікія вершы дзіцячых паэтаў для серыі «Бібліятэка літаратуры народаў СССР».

Каля двухсот вершаў паэта пакладзена на музыку А. Багатыровым, Ю. Семянякам, Я. Глебавым, Д. Смольскім, І. Лучанком, Э. Ханком, Л. Захлеўным, У. Буднікам, Э. Зарыцкім, В. Івановым, У.Карызнам-сынам, В. Макеевай і іншымі.

Многія песні надзвычай папулярныя: «Беларусь мая сінявокая», «Люблю цябе, Белая Русь», «Песня аб роднай зямлі», «Салавей спявае», «Зямля мая вялікая», «Азёры

Зорачка мая ... 32
Лампадкі шчасця ... 33
Міг салаўіны ... 34
Хвіліна святла ... 35
Першыя марозы ... 36
Надзея і каханне ... 38
Дні прыгожыя ... 40
Ліўні светлыя ... 41
Паверце, дзеванькі ... 42
Сняжынка ... 43
Дзяўчыначка-жураўліначка ... 44
Вішнямі белымі ... 45
Давайце любоў берагчы ... 46
Зямля мая вялікая ... 48

## Я СВОЙ ТУТ ЛЮДЗЯМ

**В е р ш ы**

Зялёнае шкельца ... 50
«Ёсць розныя на свеце помнікі...» ... 52
«Сын у школу пайшоў...» ... 53
«Згаджаюся з думкай...» ... 55
Няўдалы свет ... 56
«Маю рачулку выцягнулі ў струнку...» ... 57
Трацілі песня ... 59
У бары ... 60
«Узгоркі ў калючым іржэўніку...» ... 61
«Ночка, быццам сівы рыбак...» ... 62
Родная песня ... 63
«Маланкі з цемрадзі выхопліваюць...» ... 64
«Сын быць не хоча ў «зялёным» лагеры... ... 65

# ЗМЕСТ

## ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, БЕЛАЯ РУСЬ

### П е с н і


Беларусь мая сінявокая ... 6
Песня аб роднай зямлі ... 7
Белы караблік ... 8
Мы прыйшлі з перамогаю ... 9
Перамога, ты — дарога ... 11
Прыходзяць дзяўчаты бярозкамі ... 13
Чароўнае святло ... 14
Люблю цябе, Белая Русь ... 15
Вечар усміхаецца сняжынкамі ... 16
Жаночая ласка ... 17
Песня родная ... 18
Даўно ў той хаце не была ... 19
Зорка вясенняя ... 20
Салавей спявае ... 21
Ясакары ... 23
Лясная казка ... 24
Журавінка ... 25
Будзеш ты вінавата ... 26
Дом, дзе мы радзіліся ... 27
Маміна вішня ... 28
Азёры дабрыні ... 30
Зялёны паром ... 31

Пакуль ёсць Купала ............................................107
Каласавікі ............................................108
Апаў лісток ............................................109
«Ехала лета...» ............................................110
Крокі ............................................111
Чараўніца ............................................112
Ты — дождж і снег ............................................113
Вясновае ............................................114
«Паклаўшы руку на сэрца...» ............................................116
Шлях у лес ............................................117
✓ Гуляюць дзеці ............................................119
Партызанская мадонна ............................................121
Расстайныя крокі ............................................123
Сляды ............................................124
✓ Дабрыня ............................................125
Я свой тут людзям ............................................126
Вечар ............................................127
Бульба ............................................128
Вясковы музы́ка ............................................130
Бацькавы рукі ............................................132
Ліпа ............................................133
Сунічныя беразнякі ............................................134
Думай, чалавек ............................................136
Чароўны край ............................................137
Цябе сустрэў ............................................138
Ты — летняе сонца ............................................139
Жоўтае лісце ............................................140
Крынічка не спіць ............................................141
Птах ураніў кроплю вясны ............................................142
Ражок ............................................143
Я вершы не прыдумваю ............................................144

Чэрвень .................... 67
«Жураўліны нарог...» .................... 68
Настрой .................... 69
«Як квеценню, сівізною...» .................... 70
«Я цябе люблю...» .................... 71
Зайздрасць .................... 72
Сябру-кампазітару .................... 73
Сухі лісток .................... 74
Азёрны раён .................... 76
Званочак .................... 77
На ганку .................... 79
Мой лес .................... 81
Святаянскі вечар .................... 82
Званочкі-заранiцы .................... 83
Ты — музыка .................... 85
Зімой у лесе .................... 86
Эцюд .................... 87
«Што за рукі?..» .................... 88
Ты мне заспявай .................... 89
Свісток .................... 90
Паедзем .................... 91
Крыжаванне .................... 93
Ядвіся .................... 94
Вяртанне на Радзіму .................... 97
Лад .................... 98
Дома .................... 99
Слухаючы «Паэму» Фібіха .................... 100
Нязгоднасць .................... 102
Трыпціх Янку Купалу
Прызнанне .................... 103
Купалаўскія песні .................... 105

Карызна У.

К 21 Азёры дабрыні: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1995.— 174 с.; іл.— (Б-ка бел. паэзіі).

ISBN 985-02-0073-1.

Кнігу вядомага паэта, лаўрэата прэміі прафсаюзаў Беларусі, склалі лепшыя вершы з папярэдніх зборнікаў і папулярныя песні розных гадоў.

К $\frac{8820600000-004}{М 302(03)-95}$ 130—95 ББК 84(4Беи)6-5

Струн гітарных вадаспад 145
Бацька 146
Наша каханне 147
Крыніца 148
Максіму Багдановічу 150
Напрадвесні 151
Сіла 152
Студэнцкі гармонік 153
Дзіўныя чаравікі 154
Кампазітар Іван Кузняцоў 157
Малітва 159
Пяшчота 160
Непрыкметная 161
Маланка хмару падпаліла 162
Дзіця прыроды 163
Песні Валянціны Пархоменкі 164
Простая філасофія 166
«Зоркі тушыць святло...» 167

Біяграфічная даведка 168

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка беларускай паэзіі

КАРЫЗНА УЛАДЗІМІР ІВАНАВІЧ

**АЗЁРЫ ДАБРЫНІ**
**В е р ш ы**

Рэдактар Л. Р. Законнікава. Мастак М. С. Будавей. Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт. Тэхнічныя рэдактары Т. М. Сокал, Л. М. Шлапо. Карэктар Л. М. Маслоўская. Аператар В. І. Барута.

Здадзена ў набор 26.12.94. Падп. да друку 01.12.95. Фармат 60х90[1]/32. Папера афс. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 5,50. Ум. фарб.-адб. 5,50. Ул.-выд. арк. 4,44. Тыраж 1500 экз. Зак. 5871

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Выданне набрана і звярстана на настольна-выдавецкай сістэме.

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.